# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік



**XI выпуск Беларускіх Дзяржаўных 2-х гадовых вучыцельскіх курсаў.**
У першым радзе сядзяць зьлева ўправа, нававыпушчаныя вучыцелькі: А. Дэйніс, К. Карнавухава, А. Вэнедыктава, Ю. Тумоўская і Н. Шаламіцкая. У другім радзе сядзяць лектары курсаў: А. Родзька, С. Сіцько, Ул. Пігулеўскі, кіраўнік курсаў П. Жордзі, М. Паўлава, Я. Рудзіс і М. Грыўскі. У апошнім радзе стаяць нававыпушчаныя вучыцялі: А. Ціхаміраў, Э. Казак-Казакевіч, лектар латыскае мовы на курсах д-р А. Вэвэрбрандт, А. Кудраўцава, Я. Багдановіч, Я Каяла, С. Дзінабургскі і З. Мадзалеўская

№ 3 (13) Рыга, жнівень 1932 № 3 (13)

## Зьмест папярэдніх 10-ці нумяроў часопісу „Беларуская Школа ў Латвії“

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата:**
ў Латвіі да канца году — Ls 3, за межы—1 ам. даляр, або 5 лат. На месяц з перасылкай 50 сант. Адзін № у кіосках 50 сант.
Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. reķins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkast № 1362.
Рэдактар па справах часопісу прыймае па чацьвяргох ад 14-ці да 16-ці гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Аплачваць аўтарскія гонорары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

**№ 3 (13).** | **Рыга, жнівень 1932 году.** | **Год VI.**


## Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства „Бацькаўшчына" у Латгаліі і ягоная роля ў справе стварэньня беларускае школы ў Латвіі.

(П р а ц я г).

Дапамога Яна Райніса на гэты раз дала вынікі — справе дан быў афіцыйны ход і 13 верасьня 1921 году, пастановаю Рады Міністраў было ўхвалена задаволіць просьбу беларусаў аб стварэньні Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы. Нажаль, прашло яшчэ больш месяцу пакуль Беларускі Аддзел змог, нарэшці, прыступіць да працы. Але тутака вінаваты ўжо былі самі беларусы, бо затрымка выйшла толькі таму, што выстаўлены Т-вам „Бацькаўшчына" на пасаду кіраўніка Аддзелу кандыдат, гр. С. Сахараў, у апошні момант перад зацьверджаньнем пачаў адмаўляцца ад пасады. Толькі ў сярэдзіне кастрычніка былі закончаны, нарэшці, перагаворы з С. Сахаравым і 18 кастрычніка ён быў зацьверджаны на пасадзе кіраўніка Аддзелу. З гэтае даты Беларускі Аддзел і прыступіў да працы.



**Ян Райніс-Плекшан**
выдатнейшы латыскі поэта і грамадзкі дзеяч. † 12 верасьня 1929 году.

З адкрыцьцем Беларускага Аддзелу справа беларускае школы і асьветы фармальна перайшла да яго, аднак — і ў фактычнай штодзённай працы і ў важнейшыя моманты беларуска-






Izglītības Ministra Kungam!

Augsti cien. Kungs!

[illegible]

**Першая старонка чарнавога наброска заявы Яна Райніса,**
пісанае ім на імя Міністра Асьветы 18 жніўня 1921 году.

га асьветнага жыцьця — Беларускаму Аддзелу прыходзілася лічыцца з пажаданьнямі і ініцыятывай Цэнтральнага Праўленьня Т-ва „Бацькаўшчына“ і з праўленьнямі яго аддзяленьняў у правінцыі. Часта-густа і сам Аддзел зьвяртаўся да Таварыства з просьбаю аб грамадзкай падтрымцы ў робленых ім захадах перад Міністэрствам Асьветы, а таксама за рознымі спраўкамі ды інфармацыямі, бо Т-ва стаяла бліжэй да беларускага грамадзтва, чым новастворany Беларускі Аддзел.

З далейшых крокаў Т-ва „Бацькаўшчына“ у справе арганізацыі беларускіх школ, асабліва трэба адзначыць ягоную ролю: 1) у справе адчыненьня беларускіх сярэдніх школ ў Латвіі, 2) у справе сельска-гаспадарчае асьветы для беларусаў і 3) у справе адчыненьня дарогі да вышэйшае асьветы беларусам, скончыўшым сярэднюю школу.

[illegible]

Rīgā 18.8.31. J. Rainis

**Другая старонка чарнавога наброску заявы гр. Яна Райніса, з яго подпісам і датаю напісаньня заявы.**

Пасьля таго, як існаваньне аснаўных беларускіх школ у Латвіі было забясьпечана, у Т-ве паднялося пытаньне аб далейшай асьвеце для беларускага жыхарства. Першаю думкаю ў гэтым напрамку было — стварыць Беларускую Настаўніцкую Сэмінарыю, якая дала-б дарогу беларускай вясковай моладзі на пасады настаўнікаў у беларускіх вясковых школах. На гэтым праэкце меў намер спыніцца і Беларускі Аддзел, які нават зрабіў ужо аб гэтым абвесткі ў сваім першым выданьні—„Зорка“. Аднак, пасьля шэрагу нарад у Цэнтральным Праўленьні Т-ва, высьветлілася, што шлях узгадаваньня новага беларускага настаўніцтва праз арганізацыю вучыцельскае сэмінарыі — вельмі доўгі, а таму вызнана было больш адпаведным выкарыстаць для стварэньня беларускіх вучыцельскіх кадраў тую беларускую моладзь з сярэдняй адукацыяй, якая ў 1921 годзе ўжо была ў Латвіі (з ліку скончыўшых старыя расейскія сярэднія школы), стварыўшы для іх адпаведныя Пэдагогічныя Курсы, а для пад-

рыхтоўкі новае беларускае інтэлігэнцыі ўхвалена было закласьці беларускія гімназіі ў Дзьвінску і ў Люцыну.

У адпаведнасьці з гэтымі пастановамі, 1-га сьнежня 1921 г. аўтарам гэтага нарысу закладзены былі ў Дзьвінску Беларускія Джяржаўныя Аднагадовыя Вучыцельскія Курсы*) і адначасна прыступлена было да падрыхтоўчае працы па стварэньню ў Дзьвінску беларускае гімназіі. У выніку гэтае працы ўжо 25 студзеня 1922 г. Т-вам „Бацькаўшчына" была накіравана ў Беларускі Аддзел калектыўная просьба 44 бацькоў-беларусаў аб адчыненьні ў Дзьвінску беларускай гімназіі. Яшчэ праз некаторы час Цэнтральнае Праўленьне адшукала для гімназіі адпаведнае памешканьне і высунула на пасаду дырэктара - арганізатара гімназіі вядомага беларускага пэдагога і грамадзкага дзеяча — Яна Ігнатавіча Краскоўскага, які і давёў гэтую справу да памыснага канца**).

Адначасна Люцынскі Аддзел Т-ва „Бацькаўшчына" распачаў працу над арганізацыяй беларускае прыватнае гімназіі ў Люцыну. Гэтая праца таксама закончылася памыснымі вынікамі і з 1-га верасьня 1922 году Люцынская Беларуская прыватная гімназія Т ва „Бацькаўшчына" прыступіла да працы. Гімназія гэтая разьвівалася дужа добра і ўжо праз год — 1-га жніўня 1923 году — была зроблена другой дзяржаўнай беларускай гімназіяй і ўзята на поўнае ўтрыманьне Ураду. Ніхто не чакаў, што — з пераходам на ўрадовае ўтрыманьне — гімназію гэтую чакае ў будучыне страшэнная небясьпека, інакш Т-ва „Бацькаўшчына", напэўна, ніколі-б не згадзілася перадаць яе ў рукі ўрадовых устаноў, і гімназія, у якасьці прыватнае беларускае гімназіі, існавала бы да сёнешняга дня***).

Патрэбнасьць спэцыяльнае сельска-гаспадарчае асьветы для беларускага жыхарства, на 80% вясковага і прытым дужа адсталага ў спосабах гаспадараваньня на зямлі, — войстра адчувалася з першых дзён працы Т-ва „Бацькаўшчына". І таму Т-ва не магло прайсьці міма гэтае справы. Ужо ў самым пачатку 1922 году зрабіло яно адпаведныя захады перад Міністэрствам Земляробства і дабілася згоды яго на арганізацыю Беларускае прыватнае двух-гадовае сельска-гаспадарчае школы Т-ва „Бацькаўшчына" у Дзьвінску. Была падпісана ўмова з Міністэрствам, на аснове якой Т-ва „Бацькаўшчына давала памешканьне, а Міністэрства Земляробства аплачвала агранома - настаўніка ў школе і давала дапамогу на набыцьцё навучальных прыладаў ды інвэнтару.

**К. Езавітаў.**

(Працяг будзе).

---

*) Больш падрабязна аб беларускіх аднагадовых вучыцельскіх курсах глядзі у кнізе К. Езавітава — „Беларусы у Латвіі", стар. 59—63 (друкуецца), а таксама далей у гэтым Зборніку у артыкуле Ул. Пігулеўскага — „Беларускі Аддзел", ды у артыкуле П. Жордзі — „Беларускія Дзяржаўныя Вучыцелькія Курсы".

**) Глядзі кніжыцу С. Сахарава — „Гістарычны нарыс пяцігодзьдзя Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай гімназіі за 1922—1927 г. г." Стар. 5—6. А таксама артыкул С. Сахарава у гэтым зборніку — „Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская гімназія.

***) Глядзі: успамінаную ужо кніжыцу С. Сахарава, стар. 23—25; кнігу аўтара —„Беларусы у Латвіі"; ніжэй зьмешчаны нарыс Ул. Пігулеўскага — „Беларускі Аддзел" ды артыкул аўтара — „Люцынская Беларуская гімназія".

## На сходзе бацькоў Дудэльскае беларускае пачатковае школы.

Згодна пастановы Рады Беларускага Аддзелу у справе Дудэльскае беларускае пачатковае школы, сябра Рады Аддзелу гр. Ул. Раткін, і старшыня Дзьвінскага аддзелу „Т-ва беларускіх вучыцялёў“, гр. А. Барткевіч, 23 чэрвеня выяжджалі у Дудэльскую школу, каб на мейсцу высьветліць становішча школы і вучыцеля Д. Казлоўскага.

24 чэрвеня а 6 гадзіне увечары вучыцель Д. Казлоўскі склікаў сход бацькоў школы, на якім прысутнымі былі 32 бацькі (усяго у школе лічыцца 40 бацькоў). Пасьля адчыненьня сходу і выбараў прэзыдыуму, вуч. Д. Казлоўскі пакінуў сход, бо на сходзе меліся разглядацца пытаньні і аб ім пэрсанальна. Першы даклад зрабіў гр. Ул. Раткін, які адзначыў, што з атрыманых беларускім грамадзтвам вестак выходзе нібыта бацькі Дудэльскае школы падалі у Павятовую Школьную Управу просьбу, каб перагварыць беларускую школу у школу агульнага дэпартамэнту. Пасьля гэтага адзначэньня, сярод бацькоў паднялося вялікае обурэньне і пратэсты, з якіх высьветлілася, што яны зусім не жадаюць школы агульнага дэпартамэнту, што усе яны—беларусы і жадаюць толькі беларускае школы. Што да заявы, пададзенай у Павятовую Школьную Управу, дык высьветлілася, што тыя, хто зьбіраў подпісы пад заяву, казалі бацьком, што гэтая заява падаецца у Школьную Управу, каб у школе і надалейшы час пакінулі працаваць двух вучыцялёў, бо школа мае 84 вучні.

У справе вучыцеля Д. Казлоўскага бацькі аднагалосна ухвалілі, каб і надалейшы час гэты вучыцель застаўся у школе, бо яны ім дужа задаволены. Бацькі адзначалі, што вучыцель Д. Казлоўскі вельмі многа працаваў, каб узмацніць школу. Так, калі ён прышоў у школу працаваць, дык у ёй было усяго 50 вучняў, а зара' школа папоўнілася, і у гэтым навучальным годзе у ёй было ужо—84 вучня. Гэта вельмі вялікі прырост у вясковых умовах. Па рэлігійнаму складу з гэтых 84 вучняў толькі 5 старавераў, а рэшта — каталікі, па нацыянальнасьці — беларусы. Адзначалі бацькі і тое, што за 10 гадоў існаваньня школы, у ей ніводнага разу не рабілася ні вечарын ні спэктакляў і толькі, калі зьявіўся працаваць у школу вуч. Д. Казлоўскі, былі нарэшці наладжаны у школе дзьве вечарыны ды былі зроблены два беларускія спэктаклі. Першы раз ставілася камэдыя Л. Радзевіча — „Зьбянтэжаны Саўка“, а у другі раз камэдыя К. Каганца — „Модны Шляхцюк“. Вясковая моладзь з захопленьнем скача лявоніху і сьпявае беларускія песьні. Дзе-каму з ворагаў беларусаў не спадабаліся беларускія вечарыны, сьпевы і скокі, як адзнака беларускага нацыянальнага адраджэньня, таму зараз жа пачалася траўля і розная хлусьня на вуч. Д. Казлоўскага з боку тых, хто хацеў бы зусім зьнішчыць беларусаў, як нацыю. Наагул, як грамадзкі працаўнік, вуч. Д. Казлоўскі зрабіў у вёсцы Дудэлях многа. Сялянства нацыянальна усьвядамляецца і вельмі задаволена працай вучыцеля.

Дудэльскі раён мы, беларусы, лічылі мала сьвядомым у сэнсе нацыянальным. За увесь час існаваньня у Дудэлях школы, ніводнага вучня з гэтага раёну не было паслана у гімназію. А вось вуч. Д. Казлоўскі, папрацаваўшы тутака толькі адзін год, змог настолькі усьведаміць сялянства у патрэбе вучыць дзяцей, што у гэтым навучальным годзе у беларускую Дзьвінскую гімназію паступаюць з Дудэльскага раёну адразу 6 вучняў. Для культурнага узросту вёскі і нашае адраджэнчае працы гэта таксама мае вялікае значэньне. Агульны настрой у сялянства добры, з нацыянальнага боку—моцны, і вуч. Д. Казловскаму абавязкова трэба застацца і надалей працаваць у Дудэльскай школе, хаця сам ён і жадае перавесьціся у другую школу.

**А. Барткевіч.**

## Падтрымаемо беларускую бібліатэку у Пустыні!

Пустынскі Аддзел Т-ва „Беларускае Моладзі“, які мае больш 100 сталых сяброў, разьвівае шырокую дзейнасьць. Апрача пастановак спэктакляў і ладжаньня лекцый, Пустынскі Аддзел арганізуе сваю бібліатэку-чытальню. Ужо нанята памешканьне для бібліатэкі і на 21 жніўня г. г. прызначана ўрачыстае адчыненьне бібліатэкі.

Адначасна Пустынскі Аддзел зьвяртаецца да ўсяго беларускага грамадзтва з просьбай — дапамагчы абарудаваньню бібліатэкі ахвярамі кніг і часопісаў, а таксама, па магчымасьці, і грашовою дапамогаю. Кнігі трэба пасылаць на адрас: Pustiņ, Pupiku sadza, Mikeļam Klagišam.

Беларусы, адгукніцеся на заклік пустынцаў!

**С. Сахараў.**

## Выпускны Акт на Беларускіх Дзяржаўных Вучыцельскіх Курсах.

12 чэрвеня у Рызе адбыўся урачысты акт XI выпуску Беларускіх Дзяржаўных Настаўніцкіх Курсаў. Курсы працуюць зара' у Торэнзбэргу на вуліцы Брыўзэмнека, 22, супроць парку „Аркадзія". За 11 год існаваньня курсаў гэта ужо 6-е мейсца іхняе працы. Курсы адкрыты былі у 1921 годзе 1 сьнежня. гр. К. Езавітавым у Дзьвінску, на Вітабскай вуліцы № 16 і працавалі першы год як аднагадовыя дзяржаўныя курсы; затым, з прызначэньнем гр. К. Езавітава на пасаду інспэктара школ, кіраўніцтва курсамі перайшло да гр. Адварда Будзькі, а пасьля яго да гр. Андрэя Якубецкага. У 1922 годзе курсы перайшлі у будынак Беларускае гімназіі на Варшаўскай, 16, дзе адбыўся другі выпуск курсаў. З пачатку 1923-24 навучальнага году курсы пераведзены былі у Рыгу на Маскоўскі Фарштадт (В. Маскоўская вуліца № 142) у будынак 1-е Рыскае беларускае пачатковае школы. Тут кіравалі імі адзін за адным: гр. А. Родзька і гр. М. Дзямідаў. У тым жа годзе курсы, разам са школаю, перабраліся у новае памешканьне на В. Маскоўскай вул. № 173, дзе прапрацавалі і наступны 1924-25 навуч. год, у якім былі перароблены у двухгадовыя дзяржаўныя курсы і зрабілі два выпускі. У працягу гэтых год адбыліся новыя зьмены у кіраўніцтве: з пачатку 1924-25 году кіраўніком курсаў быў С. Сахараў, а потым — Г. Плыгаўка. З восені 1925-26 нав. году курсы пераведзены былі на Чырвоную Дзьвіну у будынак новаадкрытае тутака 2-е Рыскае беларускае школы на Сыманаўскай вуліцы № 14-16, дзе адпрацавалі 3 гады і зрабілі тры выпускі. Тутака кіраваў курсамі спачатку Г. Плыгаўка, затым М. Дзямідаў, а па ім—Я. Шчорс. У 1928-29 годзе курсы перабраліся у трэці кут Рыгі, у Торэнзбэрг, дзе і працуюць аж да гэтага часу. Кіруе курсамі гр. Парфіры Мэфодзіевіч Жордзі. Пры курсах закладзена і працуе ужо другі год Беларуская прыватная аснаўная школа „Т-ва беларускіх вучыцялёў", у якой працуюць настаўнікі: Любоў Булаўская і гр. П. Казакевіч, былыя выхаванцы курсаў. У школе, якая зьяўляецца ужо трэцяй беларускай аснаўной школай у Рызе, курсанты даюць свае пробныя лекцыі і адбываюць практыку і дзяжурствы.

Выпускны акт 12 чэрвеня распачаты быў кароткаю прамоваю кіраўніка курсаў, П. Жордзі, затым сакратар Пэдагогічнае Рады, дохтар А. Вэвэрбрандт, агаласіў пратакол аб выніках выпускных іспытаў і імёны скончыўшых курсы 12 маладых вучыцялёў. З гэтае лічбы 6 чалавек скончылі курсы ня толькі паўнапраўнымі настаўнікамі 6-ціклясовых беларускіх школ, але і з правам выкладаньня у іх латыскае мовы. Апошняе права дужа важна для беларусаў і дае нам магчымасьць абыходзіцца у нашых школах ужо выключна сваімі сіламі, бо да гэтага часу выкладаньне латыскае мовы нямаль ва усіх меншасьцёвых школах даручалася вучыцялём латыскае нацыянальнасьці.

З правамі на выкладаньне латыскае мовы скончылі курсы гэткія маладыя вучыцялі: 1) Венэдыктава Антаніна, 2) Дынабургскі Серафім, 3) Казакевіч Емілія, 4) Каяла Язэп, 5) Кудраўцава Ганна і 6) Шаламіцкая Ніна.

З правамі вучыцялёў 6-ціклясовых школ, але без права выкладаньня латыскае мовы, скончылі курсы вучыцялі: 1) Баргдановіч Ян, 2) Дэйніс Антаніна, 3) Енічонак Станіслаў, 4) Мадзалеўская Зінаіда, 5) Тумоўская Юлія і 6) Ціхаміраў Аркадзь.

Адна з лепшых курсантак, гр. Карнавухава, пасьпешна вытрымаўшы усе іспыты, не пасьпела здаць па-хворасьці, зачоту з пэдагогічнай псыхолёгіі і таму выдача ей пасьведчаньня затрымалася да восені. У якасьці экстэрна здаваў у гэтым годзе пры курсах іспыты за курс латыскае мовы беларускі паэта, гр. Пятро Пасальскі, які іх і вытрымаў.

Па агалошаньні пратаколу і пасьля раздачы дыплёмаў, маладых настаўнікаў вітаў і разьвітываўся з імі кіраўнік курсаў П. Жордзі, які стараўся абмаляваць значаньне і шырыню новых абавязкаў, што паўстаюць перад новымі настаўнікамі. За ім прывітаў скончыўшых кіраўнік Беларускага Аддзелу — гр. Ул. Пігулеўскі, казаўшы аб цяжкасьці сучасных абставін працы беларускага вучыцельства і аб малых надзеях атрымаць пасаду для новых настаўнікаў. Пасьля яго, ад імя „Т-ва беларускіх вучыцялёў", вітаў маладых калегаў гр. К. Езавітаў, які падкрэсьліў: што маладое настаўніцтва павінна яшчэ шмат працаваць над сабой, каб зрабіцца запраўднымі пэдагогамі; што стан асьветы беларускае меншасьці і лічба беларускіх школ цалком залежаць ад ступені грамадзкае самасьвядомасьці беларускіх меншасьцёвых мас; што поле для асьветнае працы сярод беларусаў яшчэ дужа шырокае і ад саміх маладых беларускіх настаўнікаў будзе залежаць павялічэньне лічбы вучняў у беларускіх школах, а знача і атрыманьне пасады; трэба толькі працаваць над павялічэньнем беларускае сьвядомасьці у народзе. Ад Т-ва Беларускага Тэатру вітала і дзякавала за працу у гэтым Т-ве, старшыня

праўленьня гр. Вольга Бароўская. Ад Пэдагогічнага Бюро пры Уселатвійскім Вучыцельскім Хаўрусе вітаў гр. Айрэ, які асьвятліў працу тых латыскіх вучыцялёў, што зьяўляюцца прыхільнікамі новых пэдагогічных мэтадаў. Ад дадатковай Рыскай беларускай школы прамаўляў гр. Я. Кастылюк, які зьвярнуў увагу на патрэбу арганізацыі сеткі беларускіх дадатковых школ па вёсках, дзе жыве шмат дарослага няпісьменнага беларускага сялянства, якому патрэбна даць вячэрнюю школу для дарослых па прыкладу Рыскае беларускае дадатковае школы. Ад 1-й беларускай Рыскай аснаўной школы вітаў гр. С. Сіцько, ад 2-й школы — гр. Н. Юзэфовіч, ад 3-й школы — гр. П. Казакевіч. Ад імя скончыўшых на прывітаньні адказала вучыцелька — Эмілія Казакевіч. У перарывах паміж прамовамі і пасьля прамоў з надзвычайным падоймам і цудоўнаю танальнасьцю сьпяваў курсавы хор, пад кіраўніцтвам вуч. М. Грыўскага.

Пасьля акту адбылася сяброўская разьвітальная гарбата, на якую былі запрошаны госьці і былыя курсанты. За гарбатай зноў сьпявалі і гутарылі. Асабліва прыгожую і цікавуую прамову сказаў выкладчык маляваньня на курсах, мастак і літаратар А. Пэтэрсон, якому дужа спадабаліся беларускія сьпевы. Па гарбаце адбыліся танцы, якія цягнуліся да раньня.

**К. Адраджэнец.**

## Люцынская беларуская аснаўная 6-ціклясовая школа за 10 год працы — з 1922 па 1932 год.

(Канец).

Буджэт школы за 10 год яе існаваньня складаўся з розных крыніцаў — з урадовых падтрымак, з асыгнаваньняў Люцынскае Мястовае Управы, з невялічкіх дапамогаў Т-ва „Бацькаўшчына“ і Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы ды, нарэшці, з сродкаў, зьбіраных Школьнай Радай школы, і з вучыцельскіх складак на дапамогу вучням. Дзеля лаўнаты малюнку, усе гэтыя паступленьні аб‘яднаны ніжэй у адну агульную табліцу з паказаньнем навучальных гадоў і розных стацей выдаткаў.

| ГАДЫ | Пэнсія | | | | Памешканьне | | | | | | Вучэбныя дапам., бібліят. інвэнт. | | Дапамога вучням. | | Розныя выдаткі | | Разам за год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вучыцялём | | Стораж у | | Рамонт | | Арэнда | | Апал, асьвятл. ачыстка | | | | | | | | | |
| | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. | Ls | s. |
| 1921/22 | 2.191 | 70 | — | — | — | — | 153 | — | 153 | 40 | 300 | — | — | — | 73 | — | 2.871 | 10 |
| 1922/23 | 7.510 | 79 | 180 | — | — | — | 272 | — | 442 | 27 | 380 | — | — | — | 312 | 44 | 9.097 | 50 |
| 1923/24 | 8.907 | 60 | 342 | — | 355 | 32 | 306 | — | 238 | 41 | 373 | 15 | — | — | 634 | — | 11.156 | 48 |
| 1924/25 | 7.648 | 13 | 325 | — | 8 | 60 | 424 | — | 236 | 36 | 154 | 05 | — | — | 618 | 13 | 0.414 | 27 |
| 1925/26 | 8.158 | 14 | 380 | — | 11 | 40 | 440 | — | 426 | 90 | 118 | 97 | — | — | 30 | 40 | 9.565 | 81 |
| 1926/27 | 8.012 | 32 | 377 | — | — | — | 600 | — | 201 | 69 | 33 | 90 | 440 | — | 502 | 18 | 9.727 | 09 |
| 1927/28 | 7.981 | 90 | 492 | — | — | — | 700 | — | 302 | 08 | 40 | 85 | 740 | — | 639 | 32 | 10.156 | 65 |
| 1928/29 | 10.101 | 33 | 502 | — | — | — | 700 | — | 269 | 09 | 3 | — | 1137 | 34 | 153 | 53 | 11.728 | 95 |
| 1929/30 | 10.650 | — | 562 | 50 | — | — | 608 | 33 | 318 | 82 | — | — | 1160 | 08 | 103 | 35 | 13.403 | 08 |
| 1930/31 | 11.285 | 64 | 585 | — | 50 | — | 726 | — | 160 | — | 69 | — | 560 | — | 280 | 17 | 13.688 | 81 |
| 1931/32 | 10.564 | 99 | 585 | — | — | — | 816 | — | 195 | — | 57 | 45 | 690 | 92 | 244 | 64 | 13.164 | — |
| Усяго | 90.995 | 54 | 4330 | 50 | 425 | 32 | 5745 | 33 | 2944 | 02 | 1530 | 37 | 4728 | 34 | 3591 | 16 | 113.973 | 74 |

Пэнсія вучыцялём выплачывалася з дзяржаўных сродкаў. Іншыя выдаткі: пэнсія сторажу, арэнда, рамонт, апал, асьвятленьне і др. пакрываліся, пачынаючы з 1922-23 нав. году, з бюджэту Люцынскага мястовага самаўраду, а ў першым навучальным 1921-22 годзе гэтыя выдаткі пакрываў Люцынскі Аддзел Т-ва „Бацькаўшчына“.

Большую палову сродкаў на дапамогу вучням Школьная Ра-

да сабрала ладжаньнем спэктакляў, лётарэяў і ахвярамі ад вучыцялёў. Некаторую суму адпусьціў Беларускі Аддзел.

У нашых люцынскіх умовах сродкі, сабраныя Школьнай Радай Люцынскае школы за 10 год, трэба лічыць даволі значнымі. Яны складаліся з гэткіх сум: 1) ад лётарэяў, ладжаных Школьнай Радай, выручана — 1270 лат. 7 сант., 2) ад спэктакляў, вечарынаў і канцэртаў — 205 лат. 44 сант., 3) вучыцялі школы склалі ахвяраў на незаможных вучняў — 1054 лат. 86 сант. Усяго — 2530 лат. 37 сантымаў.

Ахвяры вучыцялёў на школу складаліся з працэнтавых адлічэньняў ад іхняе пэнсыі. За час сваей працы ў школе паасобныя настаўнікі склалі гэткія ахвяры:

Сяргей Казэка — 426,78 лат., Аўстра Штэйн — 232,06 лат., Раіса Жданка — 177,85 лат., Стэфанія Казэка — 114,23 лат., Міхал Іваноў — 35,20 лат., Грыгор Плыгаўка — 40,49 лат., Лідзія Мурнік — 11,98 лат., Лідзія Чыган — 9,84 лат., Феафан Барысовіч — 4,00 лат. і Афінаген Фёдараў — 2,44 лат. Усяго — 1054,86 лат.

Падрабазная справаздача аб працы Пэдагогічнае і Школьнае Рады за 10 год існаваньня школы заняла-б шмат мейсца, а таму прыходзіцца абмяжавацца толькі статыстычнымі весткамі аб лічбе розных сходаў і разгледжаных імі пытаньняў.

Наступная табліца дае з гэтага боку некаторае ўяўленьне аб працы Пэдагогічнае і Школьнае Рады, а таксама і аб удзеле ў гэтай працы Агульных сходаў бацькоў школы.

| ГАДЫ | Пэдаг. рада | | Школьн. рад | | Сходы бацьк. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лічба сходаў | Лічба разгледжаных пытаньняў | Лічба сходаў | Лічба разгледжаных пытаньняў | Лічба сходаў у год | Лічба разгледжаных пытаньняў. |
| 1922 | — | — | 5 | 15 | 1 | |
| 1923 | 3 | 13 | 3 | 5 | 1 | |
| 1924 | 9 | 22 | 6 | 16 | 1 | |
| 1925 | 8 | 17 | 5 | 20 | 1 | |
| 1926 | 8 | 20 | 9 | 30 | 1 | |
| 1927 | 9 | 23 | 4 | 25 | 1 | |
| 1928 | 6 | 19 | 5 | 22 | 1 | |
| 1929 | 9 | 19 | 9 | 39 | 1 | |
| 1930 | 9 | 22 | 9 | 25 | 2 | |
| 1931 | 11 | 38 | 5 | 21 | 1 | |
| 1932 | 7 | 13 | 3 | 5 | 3 | |
| Усяго | 79 | 206 | 63 | 223 | 13 | |

Праз 10 год культура - нацыянальнае працы, пад канец 1931-32 нав. г., школе зноў пачала пагражаць небясьпека ліквідацыі. 3-га траўня 1932 году Люцынская Мястовая Школьная Управа вынесла пастанову, каб з наступнага 1932-33 навучальнага году замест беларускае і польскае школы адчыніць у Люцыне адну мяшаную школу Агульнага Дэпартамэнту.

Зноў пачалося змаганьне за школу. 5-га траўня адбылося паседжаньне Школьнае Рады школы, на якім быў вынесены пратэст супроць закрыцьця нашае школы. Ухвалена было зьвярнуцца да Міністра Прасьветы з просьбай — не зацьвярджаць пастанову Школьнай Управы, бо бацькі школы задаволены школаю і школа мела ў апошнім навуч. годзе 89 вучняў, з якіх 68% беларусаў. Такі-ж самы пратэст быў адасланы ў Беларускі Аддзел і ў Школьную Управу. Адначасна адбылося некалькі Агульных бацькаўскіх сходаў, на якіх было пастаноўлена зьвярнуцца да Міністра Прасьветы і ў Прасьветную Камісію Сойму з просьбамі аб астаўленьні і надалей у Люцыне асобнае беларускае аснаўное школы.

10-га ліпеня прыяжджаў у Люцын Міністр Прасьветы, гр. Кеніньш. Бацькі школы, а таксама і прадстаўнікі Люцынскіх беларускіх культурна-прасьветных арганізацый склалі дэлегацыю, наведалі гр. Міністра і падалі яму ад арганізацый, і Школьнай Рады просьбы, каб не дапусьціў да зачыненьня школы. Нічога запэўняючага Міністар не сказаў, і такім чынам існаваньне школы ў юбілейны год 10-цігодзьдзя зноў стаіць пад пытаньнем: быць, ці ня быць?

**С. Казэка.**

## Новая навуковая праца аб беларусах.

Малады эстонскі вучоны Вільлем Эрнітс, прыват-дацэнт Эстонскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Тарту (Юраў), па спэцыяльнасьці славісты, заняты зара' апрацаваньнем сваей дысэртацыі на годнасьць дохтара філёлёгіі. Тэмаю для дысэртацыі ён узяў дасьледаваньне беларускае і вялікарускае мовы і ўзаемаадносіны іх да мовы эстонскай. Гэтая цікавая праца патрабуе доўгіх і ўважлівых назіраньняў, зьбіраньня матарыялаў на мяйсцох і грунтоўнага азнаямленьня з папярэднімі друкаванымі працамі аб беларусах ды з рукапіснымі запісамі паасобных зьбіральнікаў. У мэтах вывучэньня беларускае мовы, гр. В. Эрнітс праслухаў курс Беларусаведы ў Варшаўскім Унівэрсытэце, дзе яе выкладае д-р Янка Станкевіч, потым пабываў у беларускіх вёсках Віленшчыны, а затым зрабіў навуковую экскурсыю па Усходняй Латгаліі, дзе таксама наведаў беларускія мясцовасьці. У часе падарожжы, гр. В. Эрнітс зрабіў шэраг цікавых назіраньняў і запісаў, як над мовай беларускай, так і над бытам і грамадзкім жыцьцём беларускага жыхарства. Вынікі гэтых нагляданьняў зара' апрацоўваюцца і праз дзе-які час будуць надрукаваны на нямецкай і эстонскай мовах.

Магчыма, што па ходу працы гр. В. Эрнітсу будзе патрэбна зноў пабываць у Латгаліі, аб чым ён сам ужо зазначыў сябрам Беларускага Навукова-Краязнаўчага Таварыства, ў бытнасьць сваю ў Рызе, дык Цэнтральнае Праўленьне Т-ва, інфармуючы беларускае грамадзтва аб характару і мэтах навуковае працы гр. В. Эрнітса, горача запрашае ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў, а таксама ўсё беларускае грамадзтва ў Латвіі аб падтрымцы і дапамозе гр. Вільлему Эрнітсу ў ягонай працы.

**Часовы Урад Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва.**

# Статут Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва у Латвіі.

На падставе 17-га артыкулу закона аб таварыствах, хаўрусах і палітычных арганізацыях Рэгістрацыйны Аддзел Рыскага Акруговага Суду адзначае, што яго пастановаю ад 30 чэрвеня 1932 году у справе № 225/1932 году на паставе гэтага статуту зарэгістравана „Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыства у Латвіі“ і ўнесена у рэгістр бязпрыбытачных таварыстваў на балонцы 3064. Гэрбавы збор у суме 2 лат. і канцалярскі палог у суме 1 лата заплочаны.

Рыга, 6 ліпеня 1932 году.

Кіраўнік Аддзелу (подпіс).
Сакратар (подпіс).

У газэце „Valdibas Vēstnesis“ („Урадовы Весьнік“) пастанова аб рэгістрацыі „Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва“ апублікавана 12 ліпеня 1932 году у № 152.

## I. Мэты Таварыства.

§ 1. Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыства ставіць сабе задачаю:

а) аб'яднаць усе беларускія і прыхільныя беларускаму адраджэньню навуковыя і аматарскія сілы у Латвіі, якія працуюць зара' кожды паасобку над пытаньнем беларускае культуры і навукі;

б) працаваць супольнымі сіламі над пытаньнямі: гісторыі, географіі, этнографіі, літаратуры, мастацтва, музыкі, фольклёру і экономікі Латвіі і Беларусі;

в) пашыраць здабытыя веды сярод беларускага і латыскага грамадзтва ў Латвіі;

г) садзейнічаць усемі вышэйпералічанымі спосабамі ўзаемнаму азнаямленьню і збліжэньню беларускага і латыскага народаў.

## II. Правы і праца Т-ва.

§ 2. Дзеля дасягненьня азначаных у § 1 мэтаў, Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва мае права:

а) ладзіць для сваіх сяброў конгрэсы, курсы, лекцыі, рэфэраты, навуковыя справаздачы, экскурсіі, кіно-сэансы, концэрты і тэатральныя пастаноўкі;

б) засноўваць грашовыя фонды, навукова-краязнаўчыя архівы, асобныя камісіі і спэцыяльныя, для распрацоўкі паасобных навукова-краязнаўчых пытаньняў, сэкцыі, якія працуюць пад даглядам Цэнтральнага Праўленьня Т-ва;

в) выдаваць кнігі, падручнікі, часопісы і іншыя перыядычныя і неперыядычныя выданьні;

г) закладаць і ўтрымовываць, з дазволу адпаведных урадовых установаў, для беларускага жыхарства ў розных мясцовасьцях Латвіі рознага тыпу вучэбныя ўстановы, бібліатэкі - чытальні, папулярныя навукова-краязнаўчыя курсы і лекцыі;

д) уваходзіць у зносіны з цэнтральнымі школьнымі, адміністрацыйнымі і іншымі дзяржаўнымі установамі, а таксама і з самаўрадамі, па усім тым справам, якія маюць датычэньне да навукова-краязнаўчых пытаньняў;

е) зносіцца з беларускімі і іншымі навукова - краязнаўчымі таварыствамі і навуковымі ўстановамі.

§ 3. Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва мае пячатку і кутавы штамп з яго назовам.

§ 4. Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва мае правы юрыдычнае асобы, можа набываць, утрымовываць і прадаваць нерухомую маёмасьць, паісківаць і адказываць перад судом, атрымовываць фундушы і спадчыну.

§ 5. Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва можа мець сваю эмблему, якую устанаўлівае Агульны Сход Т-ва.

## III. Сябры Таварыства.

§ 6. Сябры Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва складаюцца: з правадзейных сяброў, ганаровых сяброў, сяброў-спачуваццеляў і сяброў-караспандэнтаў.

§ 7. Правадзейнымі сябрамі могуць быць латвійскія грамадзяне, не маладзей за 18 год, якія цікавяцца навукова-краязнаўчаю працаю і жадаюць актыўна працаваць у паказаным у § 1-ым кірунку. Правадзейныя сябры ўносяць аднаразовы ўступны ўзнос у ліку 5 латаў і штомесячныя сяброўскія складкі па 1 лату. Заместа штомесячных узносаў па аднаму лату правадзейны сябра можа ўнесьці адразу 100 латаў і такім чынам будзе пазбаўлены ад далейшых штомесячных складак назаўсёды.

§ 8. Ганаровымі сябрамі абіраюцца асобы, зрабіўшыя вялікія паслугі навукова-краязнаўчай працы, або іншым спосабам дапамогшыя Беларускаму Навукова-Краязнаўчаму Т-ву ў ягонай працы. Ганаровыя сябры абіраюцца Агульным Сходам правадзейных сяброў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва і павінны атрымаць ня менш 2/3 галасоў прысутных на Агульным Сходзе сяброў.

§ 9. Сябрамі - спачуваццелямі могуць быць асобы ад 16-ці да 18-ці год і тыя, што цікавяцца навукова - краязнаўчаю працаю, але па тым ці іншым прычынам ня маюць права быць правадзейнымі сябрамі. Сябры-спачуваццелі ўносяць такія-ж грашовыя складкі, як і правадзейныя сябры, але ня маюць права пастанаўляючага голасу на Агульных Сходах

і ня могуць быць абраны ў склад Праўленьня і Рэвізыйнае Камісіі.

§ 10. Сябрамі-карэспандэнтамі могуць быць асобы, якія дапамагаюць працы Т-ва сваімі працамі і зьбіраньнем матар'ялаў. Сяброў - карэспандэнтаў абірае Цэнтральнае Праўленьне Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва большасьцю $^2/_3$ галасоў.

§ 11. Правадзейнымі сябрамі і сябрамі-спачувацелямі Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва могуць быць ня толькі фізычныя, але і юрыдычныя асобы, прычым апошнія маюць на Агульных Сходах адзін голас, які даручаюць сваім прадстаўнікам, дэлегаваным з адпаведным мандатам ад арганізацыі або ўстановы.

§ 12. Фізычныя і юрыдычныя асобы, жадаючыя ўвайсьці ў склад правадзейных сяброў, або сяброў - спачуваценяў, прыймаюцца Цэнтральным Праўленьнем Навукова-Краязнаўчага Т-ва на падставе рэкамэндацыі 3 правадзейных, або ганаровых сяброў Т-ва.

§ 13. Сябра Т-ва можа самахоць выступіць з Т-ва, паведамляючы аб гэтым Цэнтральнае Праўленьне пісьменнай заявай.

§ 14. Сябра Т-ва, які не выконвае законных вымаганьняў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва, або шкодзіць інтарэсам і мэтам Т-ва, можа быць выключаны з ліку сяброў Т-ва пастановаю Агульнага Сходу, прычым за выключэньне павінна галасаваць ня менш $^2/_3$ прысутных на сходзе правадзейных сяброў.

§ 15. Самахоць выступіўшым, ці выключаным сябрам уступныя ўзносы і штомесячныя складкі назад не вяртаюцца.

§ 16. Сябры, якія ў паказаны Агульным Сходам тэрмін не ўпарадкоўваюць сваіх сяброўскіх складак, лічацца самахоць выступіўшымі. Калі яны зноў уступаюць у сябры Т-ва, дык плоцяць уступны узнос.

§ 17. Сябры, выключаныя са складу сяброў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва на аснове § 14, могуць быць прыняты зноў у Таварыства толькі на падставе пастановы Агульнага Сходу.

## IV. Сродкі Таварыства.

§ 18. Сродкі Беларускага Навукова-Краязнаўчага Таварыства складаюцца:

а) з сяброўскіх уступных, штомесячных і аднаразовых узносаў,

б) з прыбыткаў Таварыства ад яго пачынаньняў,

в) з дабрахотных ахвяраваньняў і пакінутых па тэстамэнту сумаў,

г) з працэнтаў па належачаму Т-ву капіталу,

д) з іншых непрадугледжаных даходаў і субсыдый.

## V. Аддзелы Таварыства.

§ 19. Правадзейныя сябры Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва, памянёныя ў § 7, пражываючыя ў межах Латвіі, але за ваколіцамі гораду Рыгі, могуць арганізоўваць Аддзелы Т-ва, дзейнасьць якіх урэгулёўваецца паводле гэтага статуту.

§ 20. Аддзелы Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва могуць быць арганізаваны толькі ў тым выпадку, калі лік сяброў ня менш за 7.

§ 21. Кожны Аддзел Т-ва абірае сваё Праўленьне на сходзе сяброў Аддзелу на адзін год, па аднаму члену праўленьня на 5 сяброў Аддзелу, прычым лік сяброў Праўленьня ня можа быць больш за 3.

§ 22. Рэгістрацыю адчыненых Аддзелаў Т-ва ў Акруговым Судзе праводзе Цэнтральнае Праўленьне Беларускага Навукова-Краязнаўчага Таварыства.

## VI. Кіраваньне і арганізацыя спраў Таварыства.

§ 23. Справамі Т-ва кіруюць: 1) Агульныя сходы, 2) Цэнтральнае Праўленьне Т-ва, 3) Рэвізыйная камісія.

## VII. Агульныя сходы.

§ 24. Агульныя сходы сяброў Таварыства бываюць звычайныя і надзвычайныя. Першыя склікае Цэнтральнае Праўленьне ня менш разу ў год, а другія склікаюцца па жаданьню Цэнтральнага Праўленьня, ці на падставе пісьменнае заявы Праўленьню ад Рэвізыйнае камісіі, ці-ж ня менш як ад 20 правадзейных сяброў Т-ва.

§ 25. Цэнтральнае Праўленьне паведамляе сяброў аб часе скліканьня, мейсцу, дню і парадку дня павесткамі найменш за тыдзень.

§ 26. Агульны сход лічыцца адбыўшымся, калі на яго зьявілася ня менш як $^1/_{10}$ ад усіх, стала пражываючых у Латвіі, сяброў. Пытаньне аб абраньні ганаровых сяброў, выключэньню сябры, зьменах і папаўненьнях статуту і ліквідацыі Т-ва вырашаюцца большасьцю галасоў $^2/_3$ зьявіўшыхся на Агульны Сход сяброў.

§ 27. На выпадак, калі ў дзень, прызначаны для скліканьня Агульнага Сходу, не зьяўляецца азначаная ў § 26 лічба членаў, дык не пазьней за два тыдні склікаецца другі Агульны Сход, які мае права ўхваляць пры $^1/_{20}$ ліку ўсіх сяброў Т-ва, аб чым Цэнтральнае Праўленьне паведамляе сяброў у тэй жа павесцы на азначаны Агульны Сход. Паўторны Агульны Сход вырашае і абгаварывае толькі тыя пытаньні, якія мелі быць вырашаны на неадбыўшымся першым Агульным Сходзе. (Працяг будзе).

## Экскурсія Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай гімназіі ў Зарасай.

26 траўня Дзьвінская беларуская гімназія, сумесна з латыскай гімназіяй, зрабіла экскурсію у Зарасай (Аляксандраўск). Дзень выдаўся прыгожы. Моладзь з бадзёрным падоймам і цікавасьцю зьбіралася у дарогу — за мяжу, у другую дзяржаву. У 2 гадзіны дня быў паданы аўтабус к будынку гімназіі. Шумна і вясёла моладзь уселася у аўтабус. Па дарозе наш аўтабус далучыўся да чатырох аўтабусаў, на якіх размясьцілася латыская гімназія. У перадзі на 6-7 аўтамабілях сябры Т-ва латвійска-літоўскага зьбіжэньня. Наша колёна разцягнулася на цэлы кілёмэтр. Хутка праляцелі 20 кілёмэтраў да мяжы.

На мяжы, пасьля ўладжаньня некаторых фармальнасьцяй, экскурсанты у парадку перайшлі латвійскі шлагбаум і падайшлі к літоўскаму шлагбауму. Гэта была урачыстая хвіліна. Тут ужо чакалі прадстаўнікі Зарасая на чале з дырэктарам Зарасайскай камэрцыйнай сярэдняй школы, гр. Сьцефановічыусам, і начальнікам павету. Д-р Сьцефановічыус прывітаў гасьцей і асабліва цёпла прывітаў братоў-беларусаў.

Пасьля спатканьня усе экскурсанты накіраваліся у аўтабусах у Зарасай. Па дарозе астаноўка супроць мястовага скверу, дзе велічава высіца помнік паўшым за вольнасьць свайго народу літоўцам. На помніку гэрб Літвы — пагоня, сымболь Літоўска - Беларускага, калісьці моцнага, дзяржаўнага аб'яднаньня. Гэты сымболь перанёс думкі кожнага беларуса у слаўную мінуўшчыну і ускалыхнуў цэлы рой пачуцьцяў. Перад помнікам дырэктар латыскай гімназіі, гр. Обштэйн, сказаў прамову і ад імя Т-ва Латвійска-Літоўскага зьбліжэньня усклаў вянок.

Далей усе экскурсанты, сумесна з вучнямі літоўскіх школ, быўшых пры помніку, пад аркестр музыкі накіраваліся к новаму прыгожаму будынку — Зарасайскай камэрцыйнай школы. Тут быў кароценькі адпачынак, пасьля якога усе пайшлі на спартыўны пляц, дзе адбыліся гімнастычныя практыкаваньні моладзі.

Увечары а 9 гадзіне, у актавай сале Зарасайскай камэрцыйнай гімназіі, адбыўся акт-канцэрт. На акце выступалі з прамовамі дырэктары — Сьцефановічыус, Обштэйн і Сахараў. Пасьля сваей прамовы дыр. Сахараў паднёс Зарасайскай камэрцыйнай сярэдняй школе на памятку альбом з фатаграфіямі і вучнёўскімі працамі нашай беларускай гімназіі. У часе прамоў, латыскі, літоўскі і беларускі хора з посьпехам прыгожа выканалі свае нацыянальныя народныя песьні. Наш беларускі хор у нацыянальных вопратках і свамі мэладычнымі беларускімі сьпевамі, то сумнымі, то жывымі, зрабіў асабліва добрае уражаньне. „Лявоніха" яшчэ больш падмацавала гэта уражаньне. Пасьля канцэрту адбылася сяброўская вячэра, на якой у прамовах яшчэ раз былі падкрэсьлены добрыя узаемаадносіны паміж латышамі, літоўцамі і беларусамі. Вячэра закончылася вясёлымі скокамі. Толькі на расьвітаньні экскурсанты пакінулі гасьцінны Зарасай, увозячы з сабой самыя лепшыя успаміны аб ім і аб спатканьні з сябрамі - літоўцамі. **Экскурсант.**

## Добры прыклад (ліст у Рэдакцыю).

Пустынскі Аддзел Т-ва „Беларускае моладзі" на сваім паседжаньні 12 ліпеня ўхваліў са сродкаў Аддзелу ўстанавіць пры Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі тры стыпэндыі, па 20 латаў кожная, для вучняў гімназіі, якія паходзяць з Пустынскае воласьці. Апрача таго, кожны вучань Пустынскай воласьці, едучы вучыцца ў беларускую гімназію, будзе атрымоўваць ад Пустынскага Аддзелу Т-ва Моладзі па 5 латаў на першыя выдаткі ў паездцы.

Ад імя Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі прыношу шчырую падзяку Пустынскаму Аддзелу Т-ва „Беларускае моладзі" за яго ахвяру для сваіх малодшых братоў, што імкнуцца да далейшай асьветы.

Толькі шляхам грамадзкае дапамогі ў гэтыя цяжкія крызісныя часы мы зможамо праз сярэднюю школу павялічываць кадры сьвядомай беларускай інтэлігэнцыі ў Латвіі, падтрымаць свае родныя беларускія ўстановы ды незаможных беларускіх вучняў.

Хочацца верыць, што добры пачын Пустынскае моладзі будзе не адзіным выяўленьнем беларускае салідарнасьці і грамадзкае ініцыятывы. Дырэктар гімназіі **С. Сахараў.**

# Беларусы у Літве.

(Канец).

Маладое Т-ва было шчыра прывітана ўсім беларускім грамадзтвам, як у Літве, гэтак і ў Заходняй Беларусі, і ў Латвіі, і замежамі, бо ўсе бачылі ў ім пачатак самаарганізацыі беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі. У сваіх прывітаньнях шмат хто з адказных беларускіх дзеячоў выразна падкрэсьліў гэтую ролю Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве і выказаў надзею, што Т-ва сьвядома абмяжуецца ў сваей працы чыста меншасьцёвымі культурна-асьветнымі заданьнямі, бо як раз у гэтым кірунку зара ляжыць цэнтр вагі беларускае працы ў Літве.

За кароткі час свайго існаваньня Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва ў Літве ўжо здолела адчыніць у Коўне свой невялічкі клюб пад назовам „Беларуская Хатка“, які зьмяшчаецца на вуліцы Крашэўскага № 34, у будынку старшыні Т-ва, гр. С. Якавюка. Клюб мае залю і сцэну для тэатральных пастановак, якія ўжо і ладзяцца Драматычнаю Дружынаю Т-ва, пад рэжысураю гр. К. Плескачэўскай. Першая пастаноўка адбылася ў дзень адкрыцьця клюбу — 1-га траўня 1932 году. Ставілася пьеса-жарт Л. Родзевіча — „Зьбянтэжаны Саўка“.

Зара‘ Т-ва прыступіла да закладаньня сваіх аддзелаў у правінцыі. — Першы правінцыйны аддзел ў месце Мерачы ўжо адчынены 24-га красавіка. На ўстаноўчым сходзе ў Мерачы прысутнічала 30 асоб, якія абралі праўленьне Мерачскага Аддзелу ў складзе: старшыні — М. Езайціса, сакратара — Я. Казуна, скарбніка—М. Гардзейчыка і кандыдата ў праўленьне — А. Белавусава.

Пасьля стварэньня шэрагу аддзелаў, Т-ва мае на мэце склікаць Конфэрэнцыю беларускае меншасьці ў Літве і дамагацца адчыненьня беларускіх школ, вучыцельскае сэмінарыі і водпуску з дзяржаўнага і самаўрадовых буджэтаў дапамогі на беларускую нацыянальна-асьветную працу ў Літве.

Тым часам Ковенскае Цэнтральнае Праўленьне не пакідае і бягучае працы сярод беларускага жыхарства ў Коўне: так—11 чэрвеня ў зале Ратушы адбыўся канцэрт - баль, на якім з беларускімі сьпевамі выступала гр. А. Латонас, а 12 чэрвеня Драматычнаю Дружынаю Т-ва пастаўлены быў у сваім клюбе „Беларуская Хатка“ 2-гі спэктакль у гэтым сэзоне. Шла пьеса Ф. Аляхновіча—„Чорт і Баба“.

V.

Мы, са свайго боку, са шчырай радасьцю вітаемо гэтае абуджэньне беларускае меншасьці ў Літве, бачым у ім пачатак рэальнае культурна-асьветнае працы і жадаемо яму поўнага посьпеху.

Аднак, вітаючы стварэньне беларускага меншасьцёвага Культурна-Асьветнага Т-ва, мы хочамо перасьцярэч беларускую грамадзкасьць ад паўтораньня шкодных памылак, зробленых у 1925 годзе пры закладзінах Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве. У той час ня ўсе сьвядомыя беларускія дзеячы зразумелі ўсю важнасьць стварэньня беларускае грамадзкае арганізацыі ў Коўне. Дзе-хто, асабліва гр. Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі, які звыш меры завалены быў тады выдавецкай працай і зьвязанымі з ёю клопатамі, палічыў стварэньне Нацыянальнага Камітэту за лішняе, за

непатрэбнае і нават некарыснае пачынаньне. Седзючы за лістамі карэктуры і рукапісамі, ня змог ён у належнай меры ацаніць тагачасную сытуацыю, а будучы стомлены выдавецкай працай і баючыся, што Камітэт, будзе перашкаджаючым тормазам наладжанаму ім выдавецтву, заняў супроць Нацыянальнага Камітэту і яго арганізатараў варожую пазыцыю. Гэтая бязгрунтоўная і неразумная варожасьць выклікала войстрыя спрэчкі паміж гр. В. Ластоўскім і беларускім грамадзтвам, аб'яднаўшымся каля Камітэту, разьбіла беларускія сілы ў Літве на два варожыя лягеры, ускладніла і аслабіла працу Нацыянальнага Камітэту ды, урэшце, ударыла і па самому В. Ластоўскаму і ягоных выдавецкіх пачынаньнях, якія хутка былі спынены.

Горш за ўсё, што гэтыя ганебныя спрэчкі не былі зьліквідаваны ў нэтрах самой беларускай грамадзкасьці ў Літве, а былі вынесены за межы яе. Абедзьве стараны, асабліва гр. В. Ластоўскі, выступалі ў літоўскай прэсе і такім спосабам уцягнулі зьдзіўленае літоўскае грамадзтва ў ролю сьведкі і судзьдзі беларускіх унутраных непаразуменьняў. Змушана было ў гэтай спрэчцы выказацца і беларускае грамадзтва ў Заходняй Беларусі, у Латвіі і ў эміграцыі, бо ўсюль беларусы былі ўсхваляваны наяўнай бязглуздасьцьцю і шкоднасьцьцю гэтае барацьбы *).

Літоўскае грамадзтва ў гэтай спрэчцы выявіла сябе па-рознаму: п р ы х і л ь н і к і беларусаў стараліся ўразуміць гр. В. Ластоўскага, спыніць далейшае паглыбленьне барацьбы і давясьці беларускае грамадзтва да паразуменьня; в о р а г і беларускага адраджэньня, лятуцеўшыя за кошт беларусаў нешта здабыць для Літвы, — наадварот, падтрымоўвалі В. Ластоўскага ,і, кіруючыся лёзунгам— „Падзяляй і ўладарствуй!" — падбухторывалі яго на новыя выпады супроць Беларускага Нацыянальнага Камітэту, каб паглыбіць унутранае змаганьне сярод беларусаў; р э ш т а ліцьвіноў ставілася да гэтае спрэчкі індыфэрэнтна, назіраючы яе як вясёлы фарс, што, зусім зразумела, мала гонару рабіла для беларускае справы.

Было-б дужа прыкра, прост злачынна, калі-б і зара', хаця-ж бы ў самай аддалёнай меры, з чыей бы то ні было віны, магла бы паўтарыцца гэткая бязглуздасьць. І мы маемо надзею, што беларускае грамадзтва і паасобныя беларускія працаўнікі добра гэта разумеюць і ніколі не дадуць сябе справакаваць на ўнутрашняе, зусім зара' непатрэбнае марнаваньне сіл у такі адказны момант, як закладзіны падвалінаў пад гмах беларускае меншасьцёвае працы ў Літве.

Яшчэ адна дужа важная заўвага: беларуская меншасьць зможа моцна арганізавацца і прадукцыйна працаваць над сваей асьветай і школай, калі пачынальнікі беларускага меншасьцёвага руху ў Літве самым найцясьнейшым чынам з ь в я ж у ц ь с я б е і с в а ю п р а ц у з п р а ц о ў н ы м л ю д а м, бо беларускае інтэлігэнцыі ў Літве зара' нямнога, ды і наагул — калі ствараць меншасьцёвы рух толькі дзеля таго, каб абмяжавацца арганізацыяй беларускае інтэлігэнцыі і зусім п р а й с ь ц і м і м а рабочых і сялян,

*) Глядзі газэты: „Голас Беларуса", Рыга, 1925 г. №№ 4, 5, 6, 8, 10, 16; „Жыцьцё Беларуса", Вільня, 1925 г. №№ 1, 3, 10; „Bielaruskaja Kryniсa", Wilnia, 1925 г. № 35; „Грамадзкі Голас", Вільня, 1925, № 31 (85) ды іншыя. Больш падрабязна справа гэтая разглядадцца намі ў кніжыцы—„Беларускае адраджэньне і літоўская палітыка", якая зара' падрыхтоўваецца да друку.

дык тады няварта нічога і пачынаць, бо сіла беларускае меншасьці будзе не ў інтэлігэнцыі, а ў сялянска-работніцкай масе і ў ступені яе сьвядомасьці. Калі блюза беларускага рабочага і работніцы ды сярмяга селяніна будуць толькі выпадковымі і другаразраднымі гасьцямі на беларускіх вечарынах і сходах — дык рух беларускі ў Літве ніколі не набудзе моцы і шырыні. Калі-ж блюза і сярмяга будуць адчуваць сябе гаспадарамі ў „Беларускай Хаце", калі яны будуць дзейнымі сябрамі арганізацыі і калі сучасныя кіраўнікі беларускае меншасьці стануць на шлях еднаньня з працоўнымі, дык беларусы ў Літве будуць мець усё, што ім па праву, як кождай нацыянальнай меншасьці, належа.

Праца папярэдніх беларускіх арганізацый і ўстаноў у Коўне тым і была слабая, што яна ня выходзіла са сьцен канцалярый і габінэтаў і нямаль зусім ня мела ніякага стыку з беларускім працоўным людам, што жыў і жыве ў Коўне. Гэта было найбольшай памылкай папярэдніх працаўнікоў, ня кажучы ўжо аб тым, што некаторыя паасобныя адзінкі з іх, вызнаючы ў тэорыі „каханьне да роднага народу", у практыцы з мала схаванаю пагардаю ставіліся да простага працоўнага люду і баяліся працягнуць яму руку. І хоць такіх адзінак было нямнога і хоць яны не займалі камандуючага становішча ў беларускай працы, аднак іх настроі стваралі недапушчальную атмасфэру наўкола беларускіх устаноў і ізалявалі гэтыя ўстановы ад беларускіх мас.

Зара' беларуская праца павінна абапірацца ня толькі на высока-кваліфікаваныя адзінкі, якая бы не была велічыня іхняе індывідуальнае вартасьці, але галоўным чынам на шырокія працоўныя масы. Для працоўных мас і разам з імі павінны працаваць беларускія адраджэнцы.

*

З вялікаю прыемнасьцю адмячаемо мы і той факт, што сярод літоўскага грамадзтва таксама заўважаецца быццам нейкае жаданьне пайсьці беларусам на спатканьне і дапамогу. Так у часопісу „Musu Vilnius" зьявіўся ўжо шэраг зацемак аб жыцьцю беларусаў у Віленшчыне, а таксама і больш шырокія стацьці гр. Выгандаса, якія атрымалі водгук і ў беларускай прэсе, як у Латвіі так і замежамі. Гэтыя першыя крокі да ўзнаўленьня традыцыйнага беларуска - літоўскага сяброуства могуць зрабіцца больш выразнымі ў залежнасьці ад тае сьвядомасьці і грамадзкае актыўнасьці якую выявіць беларуская меншасьць у Літве, а таксама ў залежнасьці ад таго, якое адношаньне да сябе спаткае беларуская меншасьць з боку літоўскае грамадзкасьці і урадовых колаў.

К. Езавітаў.

14. VI. 1932. Рыга.

---

**Грамадзяне! пасылайце падпісную плату за штомесячнік „Беларуская Школа ў Латвіі" на адрас: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pasta tekošs rēķins № 10919.**

---

Я. Воркуль.

# Бурсіяда.

**Паэма з жыцьця курсантаў*).**

**Да чытача.**

Не асьмяе хай крытык строгі
Майго алоўка першы крок,
Няхай хаваюць яго богі
Казаць: „З хлапца ня выйдзе
[прок!“
І так—кладу я дар убогі
Айчызне з шчырасьцю пад ногі,
Што напісаў, як толькі змог.
Не палітычныя падзеі,
Ня рух братоў-беларусоў
У ноч з суботы на нядзелю
Апецъ патрэбным я знайшоў —
Хачу што-колечы аб бурсе
Вам, чытачы, апавядаць,
Бо сам я справы быў ў курсе,
Змагу што-колечы сказаць.
Маніць ня буду, бо мой розум
Пакуль яшчэ не папсаван
Ні сонцам Рыгі, ні марозам,
І над сабой яшчэ я пан.

I.

У месьце Рызе, на краіне,
„Дзьвіной Чырвонай“ што завецца
(Пакуль і Рыга не загіне
Яе так будуць зваць, здаецца!),
Стаіць будынак трохпаверхны,
Вялікі досіць, моцны, пекны.
Вось ў тым будынку, бяз упынку,
Працуе шмат беларусоў,
І вельмі часта, як на рынку,
Чувацца шмат там галасоў.
Часамі можна параўнаньне
Тут з правідловасьцю прывесьць—
Як ў дні паганства у Ваала
Вагня прасілі ахвяр зьесьць.
Але цяпер часы другія —
Вагня мы просім, ды другога,
Каб нашы сэрцы маладыя
Ачысьціць ад ўсяго благога.
Туды набралася народу
З усюль — асьвету здабываць.
Дала улада сваю згоду
Там установы адчыняць.

II.

Каб ў бок зусім не адхіляцца
І дарма часу ня губляць,
Ня буду доўга я спыняцца
І лішніх слоў вам намаўляць —
Пачну пра бурсу вам казаць.
Паверхам трэцьцім уладаюць
Амаль ня цэлым бурсакі:
Пакоі тры яны займаюць,
Куды ніхто ня пхне нагі.
Хто не курсант, не пэдагог —
У бурсе жыць ня мае права,
Ня зробіць крока за парог,
Не дапаможа ні заява,
Ні сьлёзы, енкі, ні прамова,
Бо вельмі моцна пастанова
За подпісам кіраўніка.
(Усюль відаць яго рука!)

**Я. Воркуль.**

(Працяг будзе).

Рыга, лістапад 1926 г.

## Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі.

**Беларусы на Усясьветнай Студэнцкай Конфэрэнцыі,** якая адбудзецца з 5 па 16 жніўня у Рызе, будуць прадстаўлены дэлегатамі: ад Праскае цэнтралі „АБСА“ („Аб'яднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый“)—дохтар Алесь Вітушка, ад студэнцтва Заходняй Беларусі — абсальвэнт Віленскага Унівэрсытэту, гр. Язэп Клагіш. Ці будуць прадстаўнікі беларусаў з Латвіі— яшчэ не высьветлілася.

**У Беларускім Навукова-Краязнаучым Т-ве** 15 ліпеня адбыўся чарговы сход сяброў-ініцыятараў Т-ва, з ліку тых грамадзян, што падпісалі у свой час арыгінал статута у нотара. Сход заслухаў паведамленьне упаўнаважанага ініцыятараў, гр. К. Езавітава, аб зацьверджаньні Рыскім Акруговым Судом статута Т-ва, і абраў часовае Праўленьне Т-ва у гэткім складзе: старшыня — К. Езавітаў, намесьнік старшы-

*) У Рэдакцыйным партфэлю нашага штомесячніка захаваўся сшытак з паэмай нябошчыка гр. Якуба Воркуля — „Бурсіяда“, якая складаецца з 20 песьняў. Паэма ня была надрукавана своячасна, бо штомесячнік не выходзіў. Зара' мы друкуемо дзьве першых песьні паэмы і спадзяёмся закончыць яе ў бліжэйшых нумярох. (Заўвага Рэдакцыі).

ні—А. Родзька, скарбнік—С. Сіцько, сакратар—Г. Нікіфароўская і вольны сябра — М. Краўчанка. Часоваму Праўленьню даручана прыймо новых членаў і арганізацыйная праца да першага агульнага сходу сяброў Т-ва, які адбудзецца увосені у Рызе. Часовае Праўленьне ужо зьвярнулася да беларускага грамадзтва з лістамі, у якіх просіць аб зьбіраньні беларускіх народных твораў на вёсках. У сваей працы Т-ва асабліва разьлічае на дапамогу беларускага вясковага настаўніцтва, курсантаў беларускіх вучыцельскіх курсаў, гімназыстаў і старэйшых вучняў аснаўных школ, якія пры належным кіраваньні, могуць правесьці справу запісу беларускіх казак, апавяданьняў, прыказак, загадак, сьпеваў і іншых народных твораў.

**Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская Гімназія** распачала прыймо вучняў ва усе клясы. Пры гімназіі для вучняў з правінцыі ёсьць добра абарудаваны інтэрнат. У першую клясу гімназіі прыймаюцца бяз іспытаў усе, хто скончыў поўны курс 6-ціклясовае аснаўное школы. У іншыя клясы, а такжама прыймо тых,хто ня скончыў 6 кляcаў ансаўной школы, адбываецца па іспытах. Просьбы з дакумэнтамі трэба накіровываць па адрасу: Daugavpils, Varšavas ielā 16, Baltkrievu ģimnazijā.

**Рыская Беларуская прыватная вячэрняя гімназія** распачала прыймо вучняў на 1932-33 навуч. год у I, II і III клясы. Прыймо просьбаў па аўторках і чацьвяргох ад 16 да 19 гадзін у канцалярыі гімназіі: Rīgā, L. Maskavas ielā, 173, Baltkrievu ģimnazijā.

**Распачалося прыймо ва усе беларускія аснауныя школы у Рызе.** У 1-й Рыскай беларускай аснаўной школе на Маскоўскім Фарштаце, В. Маскоўская вуліца № 173, кіраўнік прыймае па чацьвяргох ад 10 да 16 гадзін.

У 2-й Рыскай мястовай беларускай аснаўной школе на Чырвонай Дзьвіне, Сымонаўская вуліца, 14-16, кіраўнік школы прыймае па серадах ад 11 да 15 гадзін.

У Прыватнай беларускай аснаўной школе „Т-ва беларускіх вучыцялёў“ у Торэнзбэргу, вуліца Брыўзэмнека 22, кіраўнік школы прыймае штодня з 12 да 20 гадзін.

У Дадатковай вячэрняй беларуск. школе для дарослых на Чырвонай Дзьвіне, Сымонаўская вуліца № 14-16, кіраўнік школы прыймае штодня ад 15 да 20 гадзін.

**Складкі на штомесячнік Беларуская Школа у Латвіі.** Гэтым сьцярджаемо атрыманьне праз гр. Сяргея Казэка, на выданьне штомесячніка „Беларуская Школа у Латвіі“, гэткіх грашовых складак ад ніжэйпералічаных грамадзян: ад Цімафея Воркуля—5 лат., ад Раісы Жданка—10 лат., ад Аўдакіма Кресьцьянцава—5 лат., ад Кастуся Нікіфароўскага—5 лат., ад Васіля Руднікава —10 лат., ад Васіля Лазаронка—10 лат., ад А. Даўгой—5 лат., ад Стэфаніі Казэка—10 лат. і ад гр. Атлеўнікава—10 лат., а усяго — 70 латаў.

Усім пералічаным грамадзянам наша шчырая падзяка. Штомесячнік высылаем. **Беларускае Выд. у Латвіі**

## Курсы латыскае мовы для беларускіх вучыцялёў.

Дзьвінскім Аддзелам Таварыства беларускіх вучыцялёў арганізаваны у Дзьвінску курсы латыскай мовы па праграме вучыцельскіх інстытутаў. Курс падзелены на два гады. На 1932 год складзены буджэт у памеры 900 латаў ды дадаткова будзе выдаткавана яшчэ 80 лат.

Заняткі на курсах пачаліся 11 ліпеня, але афіцыйна курсы адчынены з 18 ліпеня і будуць цягнуцца да 20 жніўня. Прачытана будзе усяго 176 лекцый па аснаўному буджэту ды 24 лекцыі па дадатковаму буджэту. Лекцыі адбываюцца у Дзьвінскай Урадовай беларускай гімназіі.

Кіруе курсамі інспэктар аснаўных школ Дзьвіншчыны гр. Кунцан. Чытаюць лекцыі: гр. Берзінь і гр. Скуія. Слухаюць курсы ніжэйпералічаныя 25 вучыцялёў: 1. К. Александровіч, 2. Л. Александровіч, 3. К. Багінская, 4. К. Булаўская, 5. Д. Казлоўскі, 6. С. Красьневіч, 7. А. Красьневіч, 8. А. Клагіш, 9. М. Касьпяровіч, 10. С. Мацієўскі, 11. А. Махноўскі, 12. Л. Махноўская, 13. В. Мадзалеўская, 14. З. Васілеўская, 15. Ул. Ціхаміраў, 16. Цітова, 17. Карклін, 18. Мілоўская, 19. К. Мацієўская, 20. Цішкевіч, 21. Лепень, 22. Восіпаў, 23. К. Дзяргач, 24. Я. Зэйгліш і 25. Г. Юркевіч. Запісалася на курсы яшчэ пяць вучыцялёў, але яны пакуль што яшчэ не зьявіліся.

Курсы пачаліся насьпех, у нэрвовых абставінах, бо некаторыя вучыцялі (з іх слоў) атрымалі афіцыйныя паперы, што яны звальняюцца з пасад, калі не дастаюць пасьведчаньні аб сканчэньні курсаў латыскае мовы па праграме інстытуту. Таму і заняткі на курсах пачаліся раней афіцыйнага адчыненьня курсаў.

З сродкаў Беларускага Аддзелу асыгнавана на курсы дапамога усяго у суме 550 латаў, а дзеля таго што на заканчэньне праграмы першага году, патрэбна аж 980 латаў, дык нехапаючую суму прыдзецца сабраць з слухачоў курсаў шляхам узноса платы за слуханьне лекцый, у сярэднім па 30 латаў з слухача.

**Курсант.**




## Настаунікі, адкрывайце вячэрнія школы

Каб даць магчымасьць дапоўніць сваю асьвету ... сваячасна ня скончылі 6-ціклясовую аснаўную школу, Каб... сваім 21 ліпеня ухваліў адчыніць асобныя Вячэрнія ... для дарослых. Гэткія школы можна адкрываць пры і...лах. Заняткі будуць адбывацца увечары. Каб мець права на адкрыцьце такой вячэрняй школы, трэба каб у яе запісалася ня менш 30 вучняў, пачынаючы ад 16 год і старэйшага веку. Вучні да 16 год павінны вучыцца у звычайнай дняўной аснаўной школе. Гэтая пастанова Рады Міністраў надзвычайна важная для нас беларусаў, бо наша моладзь і дарослыя сяляне і рабочыя нямаль усе пагалоўна ня скончылі усіх 6-ці клясаў аснаўное школы, а каля паловы іх і зусім няпісьменныя. Зара' зьяўляецца магчымасьць зьліквідаваць гэтую няпісьменнасьць і падняць стан асьветы дарослага беларускага жыхарства. Беларускае настаўніцтва, асабліва-ж маладое беларускае вучыцельства, што толькі што выпушчана з курсаў, павінны зараз-жа узяцца за рэгістрацыю дарослых, якія жадаюць навучыцца чытаць і пісаць, а таксама і тых, што імкнуцца дапоўніць сваю асьвету. Праца гэтая павінна быць праведзена і у гарадох і, асабліва, на вёсках. Пасьпяховая праца адзінае беларускае вячэрняе школы для дарослых у Латвіі, Рыскае Дадатковае школы на Чырвонай Дзьвіне, — павінна быць для усіх нашых настаўнікаў і добрым прыкладам і наяўным доказам таго, як патрэбны для беларускае меншасьці вячэрнія школы для дарослых.

### На Беларускіх Дзяржауных Вучыцельскіх Курсах

распачалося прыймо просьбаў для жадаючых паступіць на I курс. Прыймаюцца грамадзяне, якія скончылі беларускія гімназіі і маюць матуру, або пасьведчаньне. Курс навучаньня на вучыцельскіх курсах — 2 гады. Скончыўшыя курсы атрымоўваюць права выкладаньня у 6-ціклясовых аснаўных школах. Пры курсах, для курсантаў і курсантак з правінцыі, ёсьць інтэрнат. Лепшыя у посьпехах курсанты атрымоўваюць стыпэндыю. Просьбы з далучэньнем дакумэнтаў трэба накіроўваць па адрасу: Rīgā, Brivzemnieku ielā № 22. Valsts Baltkrievu Skolotaju Kursi.

**У бліжэйшых нумарох часопіса „Беларуская Школа у Латвіі"** будуць зьмешчаны ніжэйпералічаныя артыкулы, што не увайшлі у гэты і папярэднія нумары за адсутнасьцьцю мейсца: 1) Б. Брэжго — „Ахова помнікаў старажытнасьці на Вітабшчыне", 2) К. Адраджэнец—„Латвійскі гісторык аб беларускай асьвеце у Латвіі", 3) Б. Зэліксон — „Праца цэнтральнай жыдоўскай школьнай арганізацыі у Латвіі за 10 год", 4) К. Езавітаў—„Што чытаць беларускаму вучню". 5) К. Езавітаў—„Беларускае аддзяленьне на Славянскай выстаўцы у Рызе", 6) Пр. Ус. Ігнатоўскі — „Кастусь Каліноўскі" і 7) Дзьвінскі тэатрал — „Пяць год працы Дзьвінскага Беларускага Народнага Тэатру". Апрача таго будуць зьмешчаны апавяданьні: 1) В. Вальтар — „Лясьнікова сена", 2) А. Упіт — „Фракеец Кілон" ды інш.

### Зьмест № 3 (13):





Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў**. Выдавец — **Беларускае Выдавецтва**.

Друкарня Г. Іге, Рыга, Гэртрудзінская вуліца, 80. Тэлефон 34212.